**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 4.38, 21.40, 17.02.
Віцебск — 4.19, 21.38, 17.19.
Магілёў — 4.27, 21.29, 17.02.
Гомель — 4.33, 21.18, 16.45.
Гродна — 4.54, 21.54, 17.00.
Брэст — 5.04, 21.45, 16.41.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 8 чэрвеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Івана, Фядоссі;
Фелікса, Радаміра.



# ЗВЯЗДА

11 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
чацвер, № 116 (21894)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### БЕЗ ЛЕНІНА, АЛЕ З ЗЯМЛЁЙ

**ІЎЕЎСКІ РАЁН (А. Дук). Адной з лепшых гаспадарак — калгаса імя Леніна — у раёне ўжо не будзе. Чаму? Ды таму, што калгаснікі, працуючы на палетках і фермах, не былі ўласнікамі зямлі. Вырашылі яны выправіць становішча і выйсці з гаспадаркі. Геранёнскі сельсавет, куды звярнуліся калгаснікі з просьбай аб выдзяленні зямлі, задаволіў жаданне людзей і адвёў ім па 2,8 гектара. Былыя калгаснікі ўтварылі аб'яднанне сялянскіх гаспадарак «Ніва».**

### ЗА МЯЖУ — З ШЫКАМ!

**ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ (А. Дук). Кантрольна-прапускны пункт у Брузгах даўно ўжо не можа задаволіць імкненне жадаючых як найхутчэй выехаць за мяжу. Тут бясконцыя аўтамабільныя чэргі, антысанітарыя... Таму прынята рашэнне аб будаўніцтве новага прапускнога пункта. Работы ўжо вядуцца ў Бераставіцкім раёне. Па ўсім відаць, новы КПП будзе адпавядаць прынятым стандартам, у строй уступяць адразу чатыры прапускныя лініі.**

## МІНУЎШЧЫНЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

ПОЛАЦК (В. Пілік). Паўзабыты жанр дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва пачаў сваё адраджэнне на старажытнай полацкай зямлі. У залах мясцовага краязнаўчага музея адкрылася выстава ваенна-гістарычнай мініяцюры, традыцыі якой хаваюцца ў глыбіні стагоддзяў. Полацкі гісторыка-культурны запаведнік і творчае аб'яднанне «ПІКО» прысвяцілі яе 180-гадоваму юбілею вызвалення Полаччыны ад напалеонаўскага нашэсця.

Усяго ў залах музея дэманструецца 230 работ аўтараў з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Полацка, якія прадстаўляюць асноўныя напрамкі развіцця сучаснай ваенна-гістарычнай мініяцюры.

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## ДЗЕ АДПАЧЫВАЦЬ ПАКУТНІКАМ ЧАРНОБЫЛЯ?

**«Звязда» ўжо неаднойчы пісала пра тую выключна напружаную экалагічную сітуацыю, што склалася ў басейне Лукомскага возера: «Храм ці публічны дом?» (5 сакавіка), «Ад каго чакаць міластыні?» (1 красавіка), «Возеру — ахоўную грамату» (29 красавіка). Гэта праблема стала падставай для дэталёвага абмеркавання яе на пасяджэнні калегіі Дзяржаўнага камітэта па экалогіі Рэспублікі Беларусь, дзе вызначаны канкрэтныя мерапрыемствы. Здавалася б, усе пытанні вырашаны ці ў стане вырашэння. Але днямі ў рукі трапіў адзін дакумент, а менавіта здымак, на якім адлюстраваны вынікі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС па стану на 29 красавіка 1986 года (праз чатыры дні пасля трагедыі). Здымак гэты тады так і не з'явіўся ў нашым друку, прынамсі, я яго нідзе не бачыў, нават не ўяўляў пра яго існаванне. «Прарабам перабудовы» было, як кажуць, «не да таго». Ці не таму яны ўсімі сіламі спрабавалі схаваць праўду ад народа? Асабіста «маскоўскіх правадыроў» гэты злавесны язык не дапяў, — вецер пагнаў смяротную хмару на паўночны захад. Да таго ж у іх была цэлая сетка аздараўленчых устаноў у экалагічна чыстых мясцінах, задумвалася будаўніцтва цуда-жамчужыны ў Фаросе... А людзі па сутнасці былі пакінуты на волю лёсу, у поўным няведанні сапраўднага памеру трагедыі. За якія грахі іх пакінулі сам-насам з бядой?**

**Гэтыя і безліч іншых пытанняў узніклі самі па сабе, калі дырэктар выдавецтва «Дзеці Чарнобыля» Ліля Варэца пазнаёміла мяне з фотаздымкам. Сапраўды, чыстых тэрыторый вельмі мала. І сярод іх — Лукомль...**




Расступіліся стромкія сосны — і вачам у які раз адкрылася дзівосная панарама: ледзь ці не да самага гарызонта разлілося, распласталася дзівадзіўнае — возера. Блакіт майскага неба, здавалася, саперніча са сваім адбіткам у люстранай роўнядзі вады. Мне што: падобныя моманты мроіліся з ранняга дзяцінства, з таго самага дня, калі дзед упершыню прывёў на бераг, а босыя ногі адчулі ласкавы дотык яго хваляў. А вось на спадарожніцу маю варта было паглядзець — на твары ў Лілі Арцёмаўны адбілася цэлая гама пачуццяў: і здзіўленне, і захапленне, і радасць ад сустрэчы з цудоўным кутком прыроды. Яе, мастачку, няцяжка зразумець — прыгажосць нікога не пакідае раўнадушным.

— А я лічыла, што такое можа быць толькі ў казцы,— усміхнулася яна. — Гэта ж трэба, нервуемся, перажываем, мітусімся: куды везці дзяцей на адпачынак? А тут такое, здаецца, самім Богам дадзенае месцейка.

Яе голас вывеў з асалоды асляплення ад сустрэчы з харашством і вярнуў у далёка не казачную рэчаіснасць. Такіх чыстых куточкаў на нашай зямлі не так ужо і многа, дакладней, амаль што не засталося. Быццам шчыгрынавая скура, скарачаюцца яны пад уздзеяннем жудаснай праявы — радыяцыі. Здаецца, не так даўно суседні Крупскі раён лічыўся чыстым ад радыяцыі. І вось літаральна некалькі гадзін назад старшыня яго райсавета Уладзімір Хадасевіч паказаў на карце раёна «брудныя» плямы, праўда, адносна невялікія. Цяпер ужо цяжка дакладна сказаць, ці гэта «падарунак» таго красавіцкага дня, ці яны з'явіліся значна пазней? У зоне жорсткага радыяцыйнага кантролю людзі пражывалі гадамі, аралі зямлю, палілі ў печах, радыеактыўныя пыл і попел разносіліся па зямлі. Зноў жа лясныя пажары. А колькі шкоды прыродзе, і перш за ўсё жывым істотам, наносіць чалавек... А таму ў адказ на захапляльныя воклічы спадарожніцы мусіў скептычна зазначыць:

— А вы паглядзіце вунь туды,— кіўнуў я ў бок Лукомскай ДРЭС.— Бачыце тыя дымкі над трубамі?

— Ну і што,— паціснула яна плячамі.— Якое дачыненне мае да гэтага ДРЭС?

— Самае непасрэднае, — паспрабаваў запярэчыць ёй.— Цяпер, пасля пераводу чатырох блокаў з мазуту на газ, дымавыя шлейфы зменшыліся ў некалькі разоў. Раней жа яны цягнуліся на многія кіламетры, прыпраўляючы зямлю попелам, а паветра — вокісамі серы і іншымі небяспечнымі выкідамі. Возера ледзь спраўляецца з тымі нагрузкамі, якія аказваюць на яго восем блокаў электрастанцыі. А на чарзе будаўніцтва трэцяй чаргі.

На калегіі Дзяржкамітэта па экалогіі запэўнілі ў тым, што без належнай эканамічнай экспертызы не можа быць і размовы пра разгортванне трэцяй чаргі электрастанцыі. Ёсць рэзалюцыя намесніка Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь І. Кеніка, адрасаваная старшыням Віцебскага і Мінскага аблвыканкомаў В. Кулакову і А. Цішкевічу, старшыні Дзяржкамітэта па экалогіі А. Дарафееву, экалагічнаму пракурору В. Дземідовічу і міністру сельскай гаспадаркі Ф. Мірачыцкаму: «Прашу разгледзець факты, выкладзеныя ў карэспандэнцыі газеты «Звязда», і... прыняць меры да спынення парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, прадухілення забруджвання возера Лукомскага».

На пасяджэнні калегіі мяне, праўда, некалькі насцярожыла адсутнасць там вышэйпамянёных кіраўнікоў (за выключэннем старшыні Дзяржкамітэта па экалогіі і прадстаўніка экалагічнай пракуратуры). Але ж, думалася, дасягнута галоўнае— створаны надзейныя заслоны на шляху будаўніцтва трэцяй чаргі ДРЭС, прыкрыты найбольш істотныя крыніцы забруджвання яго акваторыі. Наіўны чалавек! Як лёгка падмануцца. Падманам аказалася і сцвярджэнне адказных работнікаў Дзяржкамітэта па экалогіі адносна жорсткай экалагічнай экспертызы праекта трэцяй чаргі Лукомскай ДРЭС. Як стала вядома з размовы з дырэктарам станцыі Львом Жураўлёвым, на праектна-пошукавыя работы сёлета выдаткавана ўжо 12 мільёнаў рублёў і яшчэ 7 мільёнаў неабходна асвоіць непасрэдна на само будаўніцтва. Словам, не трэба пускаць пыл у вочы: будаўніцтва трэцяй чаргі ДРЭС ужо распачалося. Праўда кіраўнік станцыі спаслаўся на тое, што ў рэспубліцы вялікі дэфіцыт энергіі і рэальна

(Заканчэнне на 3-й стар.).






## *Пастанова*
### Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
### АБ НАМЕСНІКАХ СТАРШЫНІ КАНТРОЛЬНАЙ ПАЛАТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Зацвердзіць намеснікамі Старшыні Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь:

Корбута Мікалая Пятровіча,
Даўгалёва Васіля Барысавіча,
Радомскага Вячаслава Іванавіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

3 чэрвеня 1992 г.
г. Мінск.

## РАДЫЁФАКТ

**У Мар'інагорскім гарнізоне прайшлі ўрачыстасці з выпадку ўзвядзення пад дах аб'ектаў ваеннага гарадка, які будуецца для вайскоўцаў, што выводзяцца з тэрыторыі былой ГДР.**

Падпісана шэсць кантрактаў на будаўніцтва такіх гарадкоў, у тым ліку ў Барысаве, Баранавічах, Слоніме, Лідзе, Бярозе. Адзін з жылых масіваў у Барысаве здадзены ў эксплуатацыю. Будаўніцтва астатніх завершыцца да канца гэтага года.

***

**Суд Цэнтральнага раёна г. Мінска задаволіў іск начальніка ўпраўлення Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Генадзя Данілава. Нагадаем: ён падаў у суд на газету «Свабода» за тое, што яна апублікавала кампраметуючы яго матэрыял з фальшывымі данымі. «Народная газета» змясціла артыкул, які абараняў Данілава. У выніку суд вынес рашэнне, у адпаведнасці з якім газета «Свабода» атрымала 70 тысяч рублёў, а яе карэспандэнт — 30 тысяч рублёў штрафу.**

***

З новым харчовым і лекавым сродкам пазнаёмяць жыхароў нашай рэспублікі ўдзельнікі міжнароднай канферэнцыі па выкарыстанню прэпарата «сел-гард». Ён эфектыўны для тых, хто пацярпеў ад чарнобыльскай катастрофы. Канферэнцыя пройдзе ў Мінску 15—16 чэрвеня.

***

**Зацверджана рэспубліканская дэлегацыя для вядзення перагавораў з Расійскай Федэрацыяй па распрацоўцы праекта міжурадавага пагаднення аб урэгуляванні фінансава-эканамічных пытанняў, звязаных з уладкаваннем у Беларусі злучэнняў і часцей Заходняй групы войск, якія выводзяцца з Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. Узначальвае дэлегацыю намеснік міністра замежных спраў Уладзімір Астапенка.**

***

З мэтай расшырэння спецыялізацыі падрыхтоўкі афіцэрскіх кадраў для Узброеных Сіл рэспублікі, беларускі ўрад пастанавіў пераўтварыць Мінскае вышэйшае ваенна-педагагічнае агульнавайсковае вучылішча ў Мінскае вышэйшае ваеннакамандкае вучылішча. Яно будзе спецыялізавацца на перападрыхтоўцы афіцэраў камандкага профілю. Да 1995 года плануецца перайсці на трохгадовае навучанне ў Мінскім суворaўскім ваенным вучылішчы.

## Расія — сябар і надзейны партнёр

**12 чэрвеня народы Расіі ўпершыню адзначаць Дзень незалежнасці. Спаўняецца год з дня ўтварэння новай дэмакратычнай расійскай дзяржавы. На тэрыторыі РФ гэты дзень аб'яўлены нерабочым. Напярэдадні свята карэспандэнт БЕЛТА сустрэлася са Старшынёй Савета Міністраў Беларусі Вячаславам Кебічам і папрасіла яго коратка прааналізаваць стан двухбаковых адносін з Расіяй, перспектывы іх развіцця. Кіраўнік беларускага ўрада сказаў:**

— У нас, у Беларусі, цяпер стала модным крытыкаваць урад за тое, што ён, нібыта, ідзе ў фарватэры расійскай палітыкі. Робяць гэта і левыя сілы, і правыя. Я такой крытыкі рашуча не прымаю. Заяўляю з усёй адказнасцю: мы вядзём паўнакроўную самастойную палітычную лінію. Але грэбаваць існуючымі добрымі адносінамі з Расіяй было б проста неразумна. Наадварот, у дзелавых і ўзаемавыгадных адносінах з велізарнай краінай мы бачым вялікія магчымасці для дынамічнага развіцця Беларусі.

Хачу вярнуцца крыху назад, да пачатку 1992 года. Кіраўніцтва рэспублікі з пэўнай трывогай уступала ў паласу пераходу да рынчачных адносін. Мы не кінуліся, па прыкладу іншых, у рынак, як у вір галавой, і не пабаяліся пакінуць у прамысловасці дзяржаўны заказ. Гэта дало магчымасць пазбегнуць анархіі, захаваць эканамічную раўнавагу і кантраляваць сітуацыю.

Але распад Саюза ССР паставіў яшчэ адну вельмі складаную задачу — тэрмінова наладжваць новыя эканамічныя сувязі паміж краінамі СНД. Вядома, у першую чаргу мы звярнуліся да вялікай Расіі. Гэта і зразумела, таму што ў нашым агульным валавым нацыянальным прадукце яна займае самае вялікае месца. У многіх беларускіх і расійскіх прадпрыемстваў склаліся добрыя, пабудаваныя на ўзаемных інтарэсах і павазе адносіны. Адмовіцца ад усяго гэтага на карысць некаторым палітыкам? Такі крок, акрамя шкоды абодвум бакам, нічога б не прынёс.

Не буду скрываць, спачатку нам цяжка ішлі насустрач. Не выключаю, што камусьці было выгадна прадставіць справу так, быццам ёсць супярэчнасці паміж «беларускімі кансерватарамі» і «расійскімі рэфарматарамі». І на сёння ўсе праблемы паміж нашымі краінамі не вырашаны да канца. Але ўжо смела можна гаварыць аб галоўным—узаемнае прыцяжэнне бясспрэчнае. Як саміх славянскіх дзяржаў, так і іх кіраўнікоў. У нас няма ніякай неабходнасці рабіць падножкі адзін аднаму. Я ад душы жадаю расіянам справіцца з цяжкасцямі. Расія павінна выстаяць і, як фенікс, адрадзіцца з попелу яшчэ больш магутнай і цудоўнай.

26 чэрвеня ў нас, у Мінску, намечана правесці чарговую сустрэчу кіраўнікоў урадаў СНД. Я як прэм'ер-міністр рэспублікі, у якой знаходзіцца штаб-кватэра Садружнасці, зраблю ўсё, каб яна існавала, а не распалася.

На жаль, мы не бяром прыклад з еўрапейскіх дзяржаў, якія імкнуцца да інтэграцыі ў рамках адзінай Еўропы. Бо ніхто ў свеце не сумняваецца ў суверэннасці і незалежнасці нават самых маленькіх з іх. І краінам СНД ніхто не перашкаджае, застаючыся незалежнымі, мець добрыя адносіны адна з адной і дапамагаць у меру сіл зноў-такі адна адной эканамічна, застаючыся ў Садружнасці. Тым больш, што мы пакуль што з'яўляемся «сіямскімі блізнятамі», не гатовымі да раз'яднання. Зыходзячы з гэтага, заклікаю захаваць Садружнасць. Я разумею, што ў гісторыі можа здарыцца ўсякае. Дапускаю нават, што хтосьці з цяперашніх членаў Садружнасці можа яе пакінуць. Але рабіць з гэтага трагедыю, панікаваць прычын няма.

Цяпер мы з уласцівым беларускаму народу спакоем распрацоўваем канцэпцыю двухбаковых узаемаадносін з усімі рэспублікамі СНД. Вось гэтаму прыклад. 26 чэрвеня мы маем намер заключыць шматпланавы, усеабдымны дагавор з Расіяй. Яго падпішуць міністры замежных спраў. Так што ў будучыню беларуска-расійскіх адносін я гляджу з аптымізмам.

**Валянціна МЕНШЫКАВА,**
**кар. БЕЛТА.**

## У Прэзідыуме Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

У Доме ўрада пад старшынствам В. Кебіча адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Па двух першых пытаннях парадку дня — «Аб канцэпцыі дарожнага будаўніцтва і генеральнай схеме развіцця сеткі аўтамабільных дарог Рэспублікі Беларусь» і «Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб аўтамабільных дарогах» — з дакладам выступіў міністр будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог С. Яцута. Адзначана, што ў рэспубліцы на долю аўтамабільнага транспарту прыпадае 70 працэнтаў аб'ёму грузавых і 65 працэнтаў аб'ёму пасажырскіх перавозак. За апошнія гады з прычыны інтэнсіўнага развіцця гэтага віду транспарту шчыльнасць яго руху па дарогах павялічылася ў 3—5 разоў, а сярэдняя грузападымальнасць аўтамабіляў узрасла ў 2—2,5 раза. На гэтым фоне кантрастна праявіліся недахопы ў развіцці сеткі аўтадарог. Сёння многія з іх з цяжкасцю адпавядаюць мінімальным сучасным патрабаванням. У рэспубліцы мала дарог з цвёрдым пакрыццём — усяго толькі 337 кіламетраў на 1.000 кв. км тэрыторыі (у развітых еўрапейскіх краінах гэты паказчык роўны ў сярэднім 906 кіламетрам). Многія дарогі патрабуюць рамонту.

Канцэпцыя праграмы Міндарбуду, прадстаўленая Прэзідыуму, прадугледжвае да 2005 года ўвесці ў дзеянне толькі ў сельскай мясцовасці 75—80 тысяч кіламетраў дарог з цвёрдым пакрыццём, а таксама рэканструяваць каля 18 тысяч кіламетраў важнейшых грузанапружаных аўтамагістраляў. У выніку будзе ліквідавана бездарожжа ў сельскай мясцовасці, усе населеныя пункты звяжуцца сеткай добраўпарадкаваных дарог, шчыльнасць пазагарадскіх дарог з цвёрдым пакрыццём будзе даведзена да 626 кіламетраў на 1.000 кв. км тэрыторыі рэспублікі. Прадугледжваецца развіццё сэрвіснага абслугоўвання для транспарту, матэрыяльна-тэхнічнае і фінансавае забеспячэнне дарожнай гаспадаркі.

Іменна апошняе — фінансаванне дарожнага будаўніцтва ў рэспубліцы — выклікала больш за ўсё пытанняў да дакладчыка ва ўдзельнікаў пасяджэння. Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч прама ўказаў на яўную недаацэнку гэтай праблемы складальнікамі дакумента. Даручана дапрацаваць яго ў адпаведнасці з выказанымі заўвагамі.

Рэзкай крытыцы на пасяджэнні быў падвергнуты даклад старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта рэспублікі Г. Шкурдзя «Аб дадатковых мерах па ўпарадкаванню абстаноўкі на пагранічных пераходах Брэсцкай і Гродзенскай абласцей». Паводле заўвагі старшынствуючага, прадстаўлены праект пастановы па гэтаму пытанню напісаны ў горшых традыцыях мінулага на ўзроўні вядомых шаблонаў: «узняць—павысіць», «шырэй—глыбей». Праект не зацверджаны. Г. Шкурдзю ўказана на асабістую адказнасць за навядзенне парадку ў мытнай службе рэспублікі.

Зусім іншую ацэнку атрымалі праекты дакументаў да наступнага пункта парадку дня —«Пытанні стварэння марскога гандлёвага флоту Рэспублікі Беларусь», з дакладам па якому выступіў першы намеснік міністра транспарту А. Гулецкі.

Стварэнне марскога гандлёвага флоту, як гэта ні здасца дзіўным, цяпер з'яўляецца жыццёва неабходным для нашай рэспублікі. Толькі на фрахтаванне замежных суднаў для перавозкі грузаў траціцца каля 30—40 працэнтаў кошту прададзеных-купленых тавараў, або больш як 100 млн. долараў штогод. Такім чынам, марскі гандлёвы флот можа стаць важнай крыніцай паступлення валютных сродкаў. Разлікі паказваюць, што толькі пры перавозцы калійных угнаенняў, адпраўляемых праз порт Вентспілс (1,25 млн. тон) уласнымі суднамі, Беларусь атрымала б дадатковы даход у суме 18,9 млн. долараў. Марскія судны могуць быць набыты шляхам атрымання адпаведнай долі з саставу былога саюзнага гандлёвага і ваеннага флатоў, а таксама за кошт стварэння сумесных прадпрыемстваў з замежнымі фірмамі, акцыянерных прадпрыемстваў, арэнды флоту ў іншых краін СНД і Прыбалтыкі.

На пасяджэнні Прэзідыума заслуханы таксама справаздача «Аб рабоце выканаўчых камітэтаў Мінскіх гарадскога і абласнога Саветаў народных дэпутатаў па рэалізацыі канцэпцыі жыллёвага будаўніцтва ў частцы выдзялення тэрыторый і зямельных участкаў для індывідуальнага будаўніцтва», даклад «Аб эфектыўнасці дзейнасці сумесных прадпрыемстваў, створаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь», а таксама некаторыя іншыя пытанні сацыяльна-эканамічнага жыцця рэспублікі.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**
БЕЛТА.

## *Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

### Аб зацвярджэнні Палажэнняў аб Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, Камітэце па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры і яго складзе

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляюць:**

1. Зацвердзіць Палажэнне аб Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры (прыкладаецца).
2. Зацвердзіць Палажэнне аб Камітэце па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры (прыкладаецца).
3. Зацвердзіць склад Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры (прыкладаецца).

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**
**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**В. КЕБІЧ.**

19 мая 1992 г.
г. Мінск.

(Тэксты пастаноў на 2-й стар.).




## НЯМА ВУЗАЎ БОЛЬШ ЦЕСНЫХ, ЧЫМ ТЭХНАЛАГІЧНЫЯ

Эканамічныя сувязі паміж рэгіёнамі Садружнасці павінны наладжвацца, але не традыцыйнымі для савецкай эканомікі сілавымі метадамі, а дзякуючы стварэнню ўмоў для ўзаемнай зацікаўленасці партнёраў. Гэта думка падкрэслівалася пры падпісанні ў Мінску пагаднення аб эканамічным і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве на 1992—1993 гады паміж Міністэрствам прамысловасці Расіі і Дзяржкамітэтам па прамысловасці і міжгаліновых вытворчасцях Беларусі.

Пагадненне дапаўняе і зацверджаны на сустрэчы пералік канкрэтных прапаноў па стварэнню міждзяржаўных гаспадарчых арганізацый і фарміраванню сумесных мэтавых праграм. Прапанавана, напрыклад, стварыць тэхналагічныя карпарацыі па вытворчасці велікагрузных аўтамабіляў сям'і «БелАЗаў», выпуску складаных радыётэхнічных сістэм, дзесяткі акцыянерных таварыстваў і сумесных прадпрыемстваў, у тым ліку па распрацоўцы і вытворчасці розных машын і абсталявання для вёскі, выпуску медыцынскіх інструментаў, сродкаў касмічнай сувязі, вылічальнай тэхнікі, інтэгральных схем.

(БЕЛТА).

## ХТО НЕ ЛЮБІЦЬ «ПАГОНЮ»?

Інстытутам сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі праведзена чарговае даследаванне. На гэты раз пытанні распаўсюджваліся сярод вайскоўцаў. На жаль, мы не маем звестак па многіх пунктах анкеты, але некаторыя ўсё ж хацелася б выдзеліць. Яны датычаць у асноўным адносін вайскоўцаў да дзяржаўнага ўладкавання Беларусі. Станоўчыя адносіны да назвы нашай краіны выказала менш як 40 працэнтаў апытаных. А вось яе новыя сімвалы— герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг — ухвалілі толькі каля 18 працэнтаў апытаных афіцэраў.

Цікава, а калі б справа датычылася двухгаловага арла і трохпалоснага расійскага сцяга, то адказы былі б зусім іншыя? У войсках размешчаных на тэрыторыі Беларусі, працэнт вайскоўцаў—выхадцаў з Расіі— складае больш сямідзесяці.

# ДЗЕ АДПАЧЫВАЦЬ ПАКУТНІКАМ ЧАРНОБЫЛЯ?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

зменшыць яго на працягу двух гадоў можна толькі пры ўмове будаўніцтва новых магутнасцей тут, на Лукомлі, дзе ёсць тэхніка, кадры.

Разумею: ад дырэктара тут нічога або мала што залежыць. Вырашаюць тыя, хто ў Мінску, у тым ліку і ва ўрадзе Рэспублікі Беларусь. Ім жа ўсё адно, дзе будуць тыя блокі: на Лукомлі ці ў нейкім іншым месцы. Важна, каб хутчэй і больш танна. Але гэта ўжо псіхалогія не кіраўнікоў, а жабракоў з торбай: падайце бедным! А вось што сваім такім «саламонавым» рашэннем падпішуць канчатковы прысуд возеру, ім усё роўна. Маўляў, падумаеш, возера! Іх жа сотні ў рэспубліцы. Але возера, як і чалавек, унікальнае. І калі чалавек яшчэ ў стане пакінуць пасля сябе нашчадка, возера памірае аднойчы і назаўсёды.

Паслужлівая памяць зноў і зноў вяртае да малюнка, які, як засведчыла старшыня камітэта «Дзеці Чарнобыля» Тамара Белаокая, быў узноўлены спецыялістамі па стану на 29 красавіка 1986 года. Яго ёй уручылі «зялёныя» ў Галандыі. Злавесная ядзерная хмара вунь як вымазала Белую Русь. Белая,— значыць чыстая. Якая ж яна чыстая, калі ад усёй яе чысціні засталася адна Віцебская вобласць, астатнія пяць у той ці іншай меры забруджаныя? Але ж побач з Браслаўскімі азёрамі — Ігналінская АЭС. А раптам і там «бабахне»? Ці адбудуцца звычайныя «тэхнічныя выкіды»? Куды падацца дарослым? А дзецям?! Іх жа абавязкова трэба вывозіць у чыстую зону хоць на 2—3 месяцы. За мяжу? Але там хутка спадзе жаданне дапамагаць тым, хто пальцам не жадае паварушыць, каб памагчы сабе.

Сапраўды, дзе адпачываць ужо гэтым летам? Значная частка беларускіх здраўніц трапіла пад чарнобыльскі попел. Каўказскія, малдаўскія санаторыі і дамы адпачынку апынуліся ў цэнтры міжнацыянальных канфліктаў, бадай, на гарачай патэльні больш утульна, чым там, дзе свішчуць кулі. На чарзе — і Крым, там таксама неспакойна. Прыбалтыйскія курорты — за пагранічнымі слупамі, і каб адпачыць там, патрэбны «зялёненькія». Дык куды павязём дзяцей? Кошт перавозак узрос у некалькі разоў. Ці не больш зручна і танна наладзіць іх адпачынак у тых чыстых мясцінах, што яшчэ засталіся ў нас, стварыць сетку дзіцячых санаторыяў, дзе юныя пацыенты з зоны маглі б не толькі адпачываць, але і вучыцца? Мясцовыя гаспадаркі ў стане забяспечыць іх чыстымі прадуктамі. Дарэчы, кіраўніцтва Чашніцкага раёна актыўна падтрымала гэтую ідэю. Яе падтрымлівае і Дзяржкамчарнобыль. Цяпер — слова за ўрадам, Вярхоўным Саветам. Пад усю гэтую праграму спатрэбяцца сродкі, і немалыя.

Але найперш — спыніць будаўніцтва трэцяй чаргі Лукомскай ДРЭС, каб ўратаваць гэты цудоўны куточак зямлі. Бо хто захоча ўкладваць сродкі ў рэгіён, неба над якім будуць шкодна капціць штодня паўдзесятка высачэзных труб, а возера ператворыцца ў памыйную яму?

Вядома, праблемы дэфіцыту электраэнергіі не абмінуць. Але ж будаваць станцыі можна і на адносна забруджанай тэрыторыі, а энергію падаваць у чыстую зону, шукаць альтэрнатыўныя крыніцы энергіі. А яшчэ лепш — зачыніць шэраг энергаёмістых вытворчасцей і перапрафіляваць іх на выпуск іншай прадукцыі, якая не патрабуе гэтулькі электраэнергіі. Але гэта — ужо асобная тэма.

Уладзімір ГОЙТАН.

### Ад рэдакцыі:

Амаль два тыдні спатрэбілася, каб пракаменціраваць гэты здымак. Давялося карэспандэнту паблукаць і па калідорах Упраўлення па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, экалагічных праблемах і надзвычайных сітуацыях Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, і па пакоях рэспубліканскага Цэнтра радыяцыйнага кантролю і маніторынгу прыроднага асяроддзя... Усюды быццам бы з разуменнем ставіліся і да праблемы, і да здымка... Але калі даходзіла справа да каментарыя, то... І толькі ў Дзяржкамчарнобылі нарэшце пайшлі насустрач.

У той жа час тым жа Галоўным упраўленнем па гідраметэаралогіі Беларусі днямі выпушчана брашура «Чарнобыльскі след на Беларусі», дзе, як ужо адзначалася ў каментарыі, змешчаны падобны да гэтага здымак. Да таго ж у брашуры прыведзены даволі трывожныя даныя. У прыватнасці сказана, што «ў выніку катастрофы 23 працэнты тэрыторыі Рэспублікі Беларусь з 3.668 населенымі пунктамі, у якіх пражывае больш за 2 мільёны чалавек, аказаліся забруджаныя радыенуклідамі са шчыльнасцю больш за 1 кі/кв. км (па цэзію-137). Пасля аварыі Беларусь стала зонай экалагічнага бедства. Гэта абумоўлена тым, што новаўтвораныя зоны радыеактыўнага забруджвання супалі ў пэўных рэгіёнах рэспублікі з зонамі высокага хімічнага забруджвання, якія існавалі раней. Радыеактыўнае забруджванне ад Чарнобыля пашырылася па ўсіх абласцях рэспублікі. Але яно мае надзвычай няроўны, «плямісты» характар. Ёсць выпадкі, калі нават на невялікіх плошчах, часам у межах аднаго населенага пункта, суседнічаюць практычна «чыстыя» і моцна забруджаныя ўчасткі...

Вялікая частка насельніцтва ў рэспубліцы вымушана жыць на тэрыторыях з павышанай шчыльнасцю забруджвання радыенуклідамі. У забруджаных зонах і цяпер выкарыстоўваюцца прадукты з асабістых агародаў, што з'яўляецца асноўнай крыніцай паступлення радыенуклідаў у арганізм чалавека і атрымання людзьмі значных дозавых нагрузак не толькі ад вонкавага, але і ад унутранага апраменьвання».

Брашуру можна цытаваць і далей. Але і без таго бачна, што абстаноўка вельмі трывожная. І проста злачынна свядома пагаршаць яе. Чыстыя мясціны, што засталіся яшчэ, трэба ўсяляк аберагаць, ператвараць іх у зоны адпачынку, аздараўлення. Толькі так мы захаваем генафонд нацыі.

### КАМЕНТАРЫЙ СПЕЦЫЯЛІСТА

**Г. АНЦЫПАЎ, загадчык аддзела арганізацыі кантролю навукова-тэхнічных праектаў Дзяржкамчарнобыля, кандыдат тэхнічных навук.**

На малюнку адлюстравана мяркуемая доза ізатопу ёду-131 (у бэрах) на Беларусі і ў іншых краінах. Гэтыя даныя атрыманы Ліверморскай нацыянальнай лабараторыяй (ЗША) на падставе сярэдняй дозы, назапашанай у шчытападобнай залозе дарослага чалавека за перыяд з 26 красавіка па 1 мая 1986 года.

Дарэчы, аналагічны малюнак надрукаваны ў нядаўна выдадзенай Галоўгідраметам Беларусі брашуры «Чарнобыльскі след на Беларусі».

Такі ж самы характар меў і радыеактыўны след у перыяд да 30 красавіка, калі напрамак ветру змяніўся на паўднёвы і ўсходні.

Трэба адзначыць, што праблема ўзнаўлення доз, атрыманых у першыя дні пасля аварыі, надзвычай складаная. Над гэтым і цяпер працуюць вучоныя многіх краін.

Неабходна ведаць, што асноўная частка дозавай нагрузкі, атрыманая ў першыя дні, была абумоўлена радыенуклідамі з малым часам жыцця, у першую чаргу ёдам-131, колькасць якога змяншаецца напалавіну праз кожныя 8 дзён. Поўнасцю ён распаўся за месяц-другі. І калі паглядзець на карту радыеактыўнага забруджвання сёння, то ў напрамку на паўночны захад ад Мінска няма суцэльнай прасторы са значнай (вышэй 1 кі/км²) шчыльнасцю забруджвання ізатопам цэзію-137.

# НАЙВЯЛІКШАЕ СВЯТА МУСУЛЬМАН

**10 зу-ль-хіджа (чэрвеня) пачынаецца мусульманскае свята Ід-аль-адха, або Ід-аль-кабір, якое ў цюркскіх народаў, у тым ліку і ў беларускіх татараў, называецца Курбан-Байрам. Сёлета ў арабскіх краінах гэтае свята адзначаецца 10 чэрвеня, а ў некаторых іншых мусульманскіх краінах, у тым ліку ў беларускіх татараў, 11 чэрвеня. Святкуецца 3—4 дні. Гэта свята супадае з днём завяршэння хаджы — паломніцтва ў святыя для мусульман месцы—Мекку і Медыну.**

Традыцыя гэтага свята ўзыходзіць да вядомага сюжэта аб гатоўнасці Аўраама прынесці свайго любімага сына Ісаака ў ахвяру Богу.

Мусульманскае паданне гаворыць, што першая жонка Ібрагіма — Сара — была бяздзетнай і Ібрагім, параіўшыся з ёю, узяў сабе яшчэ адну жонку — рабыню, егіпцянку Хаджар (у Бібліі Агар). Але не было паміж жонкамі міру і згоды, і калі рознагалоссі зайшлі надта далёка, Ібрагім па патрабаванню Сары адаслаў Хаджар у пустыню паміж Меккай і Іерусалімам. Неўзабаве ў пустыні наложніца нарадзіла сына, але пакутавала без вады, пакутавала разам з ёю і немаўля. Раптам пачула яна голас, які гучаў паміж узгоркамі Сафа і Марва: «Вось вада!» Сем разоў прайшла яна паміж узгоркамі, але безвынікова. І загаласіла яна ў роспачы: «Істамі, я іл, іл». Гэта значыць «Пачуй (мяне), Госпадзі, Госпадзі». Адсюль і паходзіць імя Ісмаіл (у Бібліі — Ізмаіл). Вярнуўшыся на плач Ісмаіла, Хаджар убачыла побач з хлопчыкам чыстую крыніцу. Так было адзначана па волі Алаха гэтае дзіця.

Калі ж Ісмаіл вырас, Ібрагім атрымаў у сне загад Усявышняга прынесці сына ў ахвяру. Ібрагім быў чалавекам богабаязным і не мог не выканаць волю Алаха. Але да Ісмаіла ў чалавечым абліччы з'явіўся шайтан (ібліс) і ўгаворваў не слухацца бацькі. Ісмаіл не згадзіўся. І накіраваўся бацька з сынам да месца ахвярапрынашэння, наканаванага Алахам. І калі яны яго дасягнулі, шайтан зноў з'явіўся перад Ісмаілам і зноў схіляў яго да непакорлівасці. Тады прызнаўся Ісмаіл бацьку свайму, што прыйшоў да яго нейкі чалавек і спакушае яго. Ібрагім жа зразумеў, што гэта шайтан выпрабоўвае сына і загадаў кінуць у ібліса камень. Затым працягнуў Ібрагім руку сваю і ўзяў нож, каб зарэзаць сына свайго. Ён ужо дакрануўся быў да горла Ісмаіла, як Алах сказаў архангелу Джабраілу (у Бібліі Гаўрыілу): «Спяшайся хутчэй да раба майго і перадай яму, каб не падымаў ён рукі на хлопца свайго...» Адным узмахам крылаў Джабраіл дасягнуў зямлі і затупіў нож, перш чым той дакрануўся да горла Ісмаіла.

10 зу-ль-хіджа ва ўсім мусульманскім свеце вернікі аддаюць у ахвяру жывёлу ў памяць пра гатоўнасць Ібрагіма ахвяраваць Алаху свайго сына. Ужо за дваццаць дзён да наступлення Курбан-Байрама не дазваляецца весяліцца, наладжваць застоллі, апранаць новую вопратку, стрыгчыся.

Іншы раз у свята Курбан-Байрам можна бачыць, як прыгатаваных на ахвяру быкоў ці бараноў размалёўваюць фарбамі і ўпрыгожваюць каралямі і бразготкамі. Паводле Ісламу, дарога ў рай праходзіць цераз Сірат-мост, які перакінуты над пякельнай безданню. Мост гэты танчэйшы за чалавечы волас, вастрэйшы за лязо мяча і гарачэйшы за полымя. Каля ўваходу на Сірат-мост у Судны дзень будуць знаходзіцца жывёлы, прынесеныя ў ахвяру на Курбан-Байрам. На іх будуць прававерныя пераправляцца цераз Сірат-мост у рай. Таму гаспадар стараецца пазначыць уласнага быка або барана, каб хутчэй адшукаць яго ў гэты адказны момант.

Святкаваць дзень ахвярапрынашэння пачынаюць да ўзыходу сонца. Як толькі развіднее, мусульмане ідуць да мячэці на сабах — ранішнюю малітву.

Свята — радасная падзея, таму святочная яда павінна быць смачнай і разнастайнай. Мусульмане Беларусі гатуюць на свята такія традыцыйныя стравы, як калдумы, перакачванікі (пірагі з мясам ці салодкім тварагом), разнастайныя булкі і салаты, кампоты.

У кожнай мусульманскай хаце, кватэры на свята Курбан-Байрам пануе дух такой гасціннасці і шчодрасці, што любы чалавек, увайшоўшы ў мусульманскі дом, не пакаштаваўшы мусульманскай пачосткі, не можа выйсці.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

*** Прэм'ер-міністр Малдовы Валеру Мураўскі і некалькі міністраў яго кабінета падалі ў адстаўку. Матыў — немагчымасць вырашыць прыднястроўскі канфлікт. Выступаючы ў парламенце, прэзідэнт Малдовы Мірча Снегур заявіў, што зробіць спробу назначыць новы ўрад Малдовы да 20 чэрвеня і звярнуўся да міністраў з просьбай працягваць работу да таго часу, пакуль не будзе сфарміраваны новы ўрад.**

* Пасля ранейшага інтэнсіўнага абстрэлу сталіцы Босніі і Герцагавіны сербскімі сіламі ў Сараева ўсталявалася адносная цішыня. Аднак у некаторых раёнах працягваюцца вулічныя баі.

*** Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын заклікаў пакласці канец кровапраліццю ў Паўднёвай Асеціі, дзе ў апошні час узмацніліся баі. Ельцын прапанаваў стварыць камісію, у састаў якой уключыць прадстаўнікоў усіх зацікаўленых бакоў.**

* Старшыня Вярхоўнага Савета Расіі Руслан Хасбулатаў заявіў, што Садружнасць Незалежных Дзяржаў пакуль яшчэ не выканала ўмоў кантракту аб продажы Ірану трох падводных лодак звычайнага тыпу. Выступаючы на прэс-канферэнцыі ў сталіцы Саудаўскай Аравіі, Хасбулатаў указаў, што гэты кантракт быў заключаны ў часы Гарбачова і пакуль што Іран не атрымаў ніводнай падводнай лодкі. Па ўмовах здзелкі падводныя лодкі павінны былі быць пастаўлены ўжо ў канцы чэрвеня. Але яны яшчэ нават не пабудаваны.

*** Турцыя пачынае падрыхтоўку дыпламатаў для пяці былых савецкіх рэспублік. Як заявіла турэцкае міністэрства замежных спраў, 29 прафесіянальных дыпламатаў з Азербайджана, Казахстана, Кыргызстана, Узбекістана і Туркменістана прыбудуць 16 чэрвеня ў Анкару для праходжання месячных курсаў падрыхтоўкі. Турцыя мяркуе таксама пачаць падрыхтоўку банкаўскіх служачых, менеджэраў для краін, што маюць з ёй агульныя этнічныя, рэлігійныя і культурныя традыцыі.**

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

* У адным з раёнаў дзелавога цэнтра Кабула адбыўся выбух, у выніку якога загінулі чатыры чалавекі. Узарвалася граната, якую выпадкова згубілі каля аднаго з рынкаў.

*** Зноў грымяць баі на граніцы паміж Арменіяй і Азербайджанам. Пазаўчора тут загінулі 9 чалавек.**

* Вярхоўны Савет Літвы адмовіўся прыняць адстаўку прэм'ер-міністра Вагнюруса. Толькі 51 дэпутат прагаласаваў за прыняцце адстаўкі, 46 — супраць, 5 — устрымаліся, а 5 дэпутатаў не прынялі ўдзелу ў галасаванні. Вагнюрус падаў у адстаўку ў маі, абвінаваціўшы Вярхоўны Савет у стварэнні перашкод яго праграме рэформ. Ён назваў дэпутатаў ад апазіцыі камуністычным блокам.

*** Міністр абароны Расіі Павел Грачоў заявіў, што Расія вырашыла стварыць сілы хуткага рэагавання. У іх састаў увойдуць дэсантныя падраздзяленні і транспартныя самалёты. Гэтыя сілы будуць перакідвацца ў ачагі напружання для хуткага ўрэгулявання канфліктаў. Грачоў зазначыў, што ў склад сіл увойдуць і некалькі матарызаваных пяхотных брыгад. Ён указаў, што буйнае звяно новых сіл складуць хутчэй за ўсё вайскоўцы, якія вяртаюцца на радзіму з Усходняй Германіі і Закаўказзя. Наколькі яны будуць вялікія і дзе базіравацца, міністр не паведаміў.**

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

* Міністр абароны ФРГ Руэ заявіў, што Германія прыступіць да аднабаковага скарачэння зброі з тым, каб пераканаць былыя рэспублікі СССР у неабходнасці хутчэйшай ратыфікацыі Дагавора па скарачэнню звычайных узбраенняў у Еўропе. Руэ паведаміў журналістам у Берліне, што дзесяць тысяч баявых сістэм будуць ліквідаваны ў якасці жэста добрай волі. Паводле яго слоў, Германія закончыць ліквідацыю ў сярэдзіне года — пасля кансультацыі з саюзнікамі па НАТО. Дагавор па скарачэнню звычайных узбраенняў быў падпісаны краінамі — членамі НАТО і Варшаўскага Дагавора ў 1990 годзе, аднак не ўступіў пакуль у сілу ў выніку распаду СССР і Варшаўскага Дагавора.

*** Лідэр партыі «Х», былы сапернік Леха Валенсы на пост прэзідэнта Польшчы, грамадзянін трох дзяржаў свету Станіслаў Тымінскі папярэдзіў кіраўніка польскай дзяржавы, што раскрые сакрэты свайго «чорнага партфеля», калі той неадкладна не пойдзе ў адстаўку. Як паведамляюць сусветныя інфармацыйныя агенцтвы, Тымінскі, баючыся пакушэнняў на сябе, раніцай 7 чэрвеня пакінуў Польшчу.**

* Судовыя ўлады Федэратыўнай Рэспублікі Германія прад'явілі былому кіраўніку камуністычнага рэжыму ГДР Эрыху Хонекеру новыя абвінавачванні. На гэты раз — у растратах і раскраданні. Устаноўлена, што ў 1988 і 1989 гадах Хонекер і яго прыбліжаныя патрацілі 9,6 мільёна долараў на набыццё каштоўных заходніх тавараў для асабістага карыстання. Аб гэтым паведаміла агенцтва Рэйтэр.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

interfax ИНТЕРФАКС паведамляе

### У ТБІЛІСІ ЎЗМАЦНЯЮЦЦА МЕРЫ СУПРАЦЬ ЗЛАЧЫННАСЦІ

**Паводле паведамлення МУС Грузіі, з аўторка ў Тбілісі пачата сумеснае патруляванне дарог і ўездаў у горад міліцыяй, аўтаінспекцыяй і нацыянальнай гвардыяй. Гэта мера прынята ў мэтах узмацнення барацьбы са злачыннасцю, у тым ліку з боку ўзброеных груповак.**

### ВА УЗБЕКІСТАНЕ ФАРСІРУЮЦЬ УКАРАНЕННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ МОВЫ

Пытанні ўкаранення ў жыццё закона Узбекістана аб дзяржаўнай мове разгледжаны на пасяджэнні, якое прайшло ў аўторак у Кабінеце Міністраў рэспублікі.

На пасяджэнні адзначалася, што да гэтага часу нават у вышэйшых інстанцыях Узбекістана слаба мяняюцца адносіны да дзяржаўнай мовы. У якасці негатыўнага быў прыведзены факт, што некаторыя рашэнні і ўказы спускаюцца на месцы на рускай мове.

### ДЭМАКРАТЫ РЫХТУЮЦЦА ДА ПРАВЯДЗЕННЯ ЎСЕРАСІЙСКАГА РЭФЕРЭНДУМУ

**У аўторак у Маскве адбыўся сход дэмакратычна настроеных грамадзян па вылучэнню ініцыятыўнай групы для правядзення ўсерасійскага рэферэндуму. Як паведамляе наш карэспандэнт, на ім рэзкай крытыцы падверглася пазіцыя тых дэмакратычных партый, якія не падтрымалі ідэю плебісцыту. На яго вырашана вынесці пытанні аб прыватнай уласнасці на зямлю, аб праве прэзідэнта аб'яўляць рэферэндум, а таксама аб прыняцці новай Канстытуцыі не з'ездам народных дэпутатаў РФ, а ўстаноўчым сходам.**

**Аляксандр Кісялёў, старшыня выканкома расійскага Руху дэмакратычных рэформ, у інтэрв'ю карэспандэнту «Інтэрфакса» выказаў спачуванне ў сувязі з адмовай Народнай партыі «Свабодная Расія» (А. Руцкога), Дэмакратычнай партыі Расіі (М. Траўкіна) і саюза «Абнаўленне» (А. Вольскага і А. Уладзіслаўлева) падтрымаць правядзенне рэферэндуму.**

### ДЭПУТАТЫ АД ПРЫДНЯСТРОЎЯ ПРАПАНУЮЦЬ КІШЫНЁВУ ПРАЕКТ ДЗЯРЖАЎНАГА ЎЛАДКАВАННЯ

Дэпутаты ад Прыднястроўя маюць намер унесці на разгляд парламента Малдовы, сесія якога адкрылася ў Кішынёве ў аўторак, два праекты пастановы — «Аб спыненні ваеннага канфлікту ў Прыднястроўі» і «Аб дзяржаўным уладкаванні Рэспублікі Малдова». Аб гэтым паведамілі «Інтэрфаксу» ў прэс-цэнтры ўрада Прыднястроўя.

ПЫТАЛЬНІК!

**Бацька ў мяне татарын, а маці — беларуска. Вельмі хацеў бы памяняць імя па бацьку, але не ведаю, ці магчыма гэта?**

**Я. ГРАМЫКА.**

**г. Магілёў.**

**Мая дачка запісана як Аксана, але амаль усе завуць яе Ксеніяй. Як можна памяняць імя ў дакуменце?**

**Л. ПРОЦКАЯ.**

**Мінскі раён.**

З верасня мінулага года на Беларусі дзейнічае закон, згодна з якім мяняць прозвішча, імя і імя па бацьку грамадзяне могуць ужо з 16 гадоў, а не з 18, як раней. Дзеля гэтага трэба звярнуцца з пісьмовай заявай у ЗАГС па месцы жыхарства. Бацькі мяняюць імёны дзецям да спаўнення ім 5 гадоў, калі іх завуць інакш, чым запісана ў пасведчанні аб нараджэнні. Патрэбы ў змене імя, імя па бацьку і прозвішча ў апошні час узнікаюць усё часцей, што тлумачыцца немілагучнасцю, жаданнем мужа і жонкі насіць агульнае прозвішча, нацыянальнымі прычынамі і, асабліва, астралогіяй, якая так актыўна увайшла ў наша жыццё. Дарэчы, спіс імёнаў, якія сёння даюцца народжаным, не вельмі вялікі. Менш стала Святлан, Ігараў, зніклі Акцябрыны, Алімпіяды, Уладлены і Кімы, затое ўсё больш Настассяў, Палін, Ксеній, Мікіт, Арцёмаў, Мацвеяў.

## Генеральны дырэктар, дарэчы, застрахаваны

**Здаецца, усе памятаюць шырокамаштабную акцыю на плошчы Незалежнасці страхоўшчыкаў нізавых звенняў супраць кіраўніцтва Белдзяржстраха і персанальна яго генеральнага дырэктара Пятра Стасюка. Апошняга абвінавачвалі ў фінансавых (у тым ліку валютных) махінацыях, злоўжыванні службовым становішчам у асабістых мэтах і карупцыі. У сувязі з гэтым цікава было б даведацца, ці застрахаваны сам Пётр Стасюк, дзе і ад чаго?**

**В. ЛАМЕКА.**

**Мінскі раён.**

Паводле слоў генеральнага дырэктара Белдзяржстраха Пятра Стасюка, ён застрахаваўся 30 гадоў назад, калі яшчэ не працаваў у сістэме дзяржаўнага страхавання. Цяпер у яго застрахаваны жыццё, дача, маёмасць на дачы, маёмасць у кватэры, машына і ўся яго сям'я. Пётр Стасюк, аднак, зазначыў, што па так званых страхавых выпадках страхоўку за ўсё жыццё ні разу не атрымліваў.

## «КІШЭНЯ» ААН: ХТО БОЛЬШ?

**— Цікава даведацца, якія ўзносы плацяць у ААН дзяржавы, што раней уваходзілі ў састаў СССР?**

**ЛІСАВЫ.**

**г. Мінск.**

**Адказ на гэта пытанне мы атрымалі ў дэпартаменце інфармацыі і друку МЗС Расійскай Федэрацыі, які валодае на сённяшні момант найбольш дакладнымі данымі.**

Узнос Расіі ў ААН устаноўлены ў размеры 9,41 працэнта, Украіны—1,18 працэнта, Беларусі—0,31 працэнта ад агульнага бюджэту ААН (0,01 працэнта роўна прыкладна 100 тысячам долараў).

Стаўкі Літвы, Латвіі і Эстоніі ў адпаведнасці з рэзалюцыяй Генеральнай Асамблеі ААН будуць вызначаны на 32-й сесіі Камітэта ААН па ўзносах, пасля чаго іх вылічаць са стаўкі Расійскай Федэрацыі, якая адпаведна стане меншай, чым цяперашнія 9,41 працэнта. Сумы да выплаты будуць налічвацца з моманту прыняцця гэтых трох дзяржаў Балтыі ў састаў ААН. Па астатніх дзяржавах, якія ўваходзілі ў састаў СССР, стаўкі яшчэ не вызначаны, але на іх, відавочна, будзе распаўсюджана тая ж сістэма.

Палавіну ўзносу за 1991 год былы СССР (уключаючы Беларусь і Украіну) заплаціў. Агульная сума склала без малога 53 мільёны долараў. Але не трэба забываць і пра другую палавіну... Скаргі на «пустыя кішэні» ў сусветным супольніцтве не праходзяць.

# Кірмашы, кірмашы

**Кажуць, што да рэвалюцыі 1917 года ў Беларусі праводзілася вельмі шмат гандлёвых кірмашоў, якія праходзілі кожны год у адны і тыя ж дні. У наш час гэтыя традыцыі амаль страчаны. Раскажыце, калі ласка, калі адбываліся кірмашы, напрыклад, у буйных гарадах Беларусі.**

**С. ГАЛУЗА.**
**г. Лоеў.**

Сапраўды, на тэрыторыі нашай рэспублікі ў так званыя «дакастрычніцкія» часы дзейнічалі кірмашы ў многіх гарадах і вёсках. Прычым традыцыйна кожны год яны праходзілі ў адны і тыя ж дні, у якія быццам бы Бог найбольш спрыяў гандлёвым здзелкам. Прыводзячы спіс найбольш буйных кірмашоў Беларусі, спадзяёмся, што традыцыі іх правядзення будуць адноўлены ў поўным аб'ёме. Заўважым, што ўсе даты прыведзены па старому стылю, таму да іх трэба прыбаўляць трынаццаць дзён.

**Берастявіца** — 6 мая (конскі кірмаш).
**Беразіно** — з 6 па 9 жніўня.
**Бабруйск** — 1 студзеня, 9 мая і 1 кастрычніка.
**Бешанковічы** — 29 чэрвеня.
**Быхаў** — на першым тыдні Вялікага паста, на дзесятым тыдні пасля Вялікадня і на апошнім тыдні Вялікага паста.
**Гомель** — з 1 па 8 студзеня, у дзень Сашэсця Святога Духа, і з 14 па 16 верасня.
**Гродна** — з 26 чэрвеня па 26 ліпеня.
**Гальшаны** — 23 красавіка і 24 чэрвеня.
**Даўгінава** — 20 і 21 мая.
**Друя** — з 6 па 10 студзеня і ў першую нядзелю Вялікага паста (на працягу 3 дзён).
**Дзвінск** — з 25 снежня па 7 студзеня і з 6 па 26 чэрвеня.
**Жлобін** — з 1 па 15 кастрычніка.
**Зэльва** — з 25 ліпеня па 25 жніўня.
**Крэва** — 9 мая і 1 кастрычніка.
**Кобрын** — з 6 па 31 студзеня.
**Койданава** — 1 лютага, 23 красавіка, 8 і 18 мая, 20 ліпеня і 1 кастрычніка.
**Лоеў** — на дзесятым тыдні пасля Вялікадня.
**Лужкі** — 24 студзеня і 8 верасня.
**Люцын** — з 12 лютага і з 15 жніўня (па два тыдні).
**Мінск** — з 25 мая па 25 чэрвеня.
**Мір** — з 9 мая чатыры панядзелкі запар, з 6 снежня.
**Мазыр** — 6—27 студзеня, 6—28 жніўня.
**Магілёў** — 10—18 снежня, з 29 чэрвеня па 2 ліпеня (конскі), 15—24 ліпеня.
**Орша** — 9 мая (нікольскі).
**Асвея** — у пятніцу перад Пятровым днём, 24 ліпеня і ў дзень Ушэсця.
**Ашмяны** — 23 красавіка і 29 верасня.
**Нясвіж** — з 13 па 17 верасня.
**Навагрудак** — 19 сакавіка.
**Парычы** — з 14 па 22 кастрычніка.
**Петрыкаў** — 20 ліпеня і 1 кастрычніка.
**Пінск** — у дзень Сашэсця Святога Духа, на дзесятым тыдні пасля Вялікадня і з 12 па 16 чэрвеня.
**Полацк** — у дзень Прападобнай Ефрасінні.
**Пухавічы** — 9 мая і 6 снежня.
**Рэчыца** — з 9 па 23 мая і з 6 па 26 снежня.
**Радашковічы** — з 6 па 9 мая.
**Свіслач** — 26 жніўня.
**Смаргонь** — з 15 па 18 студзеня, і ў сярэдзіне Вялікага паста; з 11 па 12 сакавіка; 20 жніўня — 1 верасня, з 8 па 29 верасня.
**Стоўбцы** — 6 сакавіка.
**Тураў** — 10 лютага, 25 чэрвеня.
**Чавусы** — георгіеўскі 23 красавіка, 26 лістапада і на першым тыдні Вялікага паста.
**Чэрыкаў** — на першым тыдні Вялікага паста, на Сёмуху, 1 кастрычніка і 10 снежня.
**Шклоў** — на другім тыдні Вялікага паста і на дзевятым тыдні пасля Вялікадня.
**Хойнікі** — 2 лютага і 1 кастрычніка.
**Шчучын** — з 15 ліпеня і з 15 кастрычніка (па месяцу).

# Хопіць працаваць «на дзядзьку»

**Як паведамляла «Звязда», адбылася прэс-канферэнцыя старшыні Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Станіслава Багданкевіча па пытаннях плацежнага крызісу ў эканоміцы рэспублікі. Адной з мер яго пераадолення было названа ажыццяўленне 1 ліпеня г. г. узаемнага заліку запазычанасцей унутры Беларусі і паміж рэспублікамі.**

Механізм аперацыі ў агульных рысах такі: наш МТЗ павінен пастаўшчыкам за межамі рэспублікі прыблізна 1 мільярд рублёў. Але і яму ў краінах Садружнасці завінаваціліся за яго прадукцыю каля мільярда. Вось гэтыя сумы і пойдуць у залік. Умовы правядзення заліку яшчэ будуць карэкціравацца, але пагадненне аб ім альбо прынцыповая дамоўленасць у Нацыянальнага банка і ўрада Беларусі з іх партнёрамі ўжо дасягнуты.

Паўстае пытанне: ці выгадная нам такая ліквідацыя ўзаемных фінансавых прэтэнзій? Станіслаў Антонавіч сцвярджае, што выгадна. Па-першае, Беларусі іншыя рэспублікі вінны на 15 мільярдаў рублёў больш, чым яна ім. Па-другое, трэба як мага хутчэй спыніць існуючую заганную практыку. Бо што атрымліваецца? Вытворца выпрабляе тавар і адпраўляе спажыўцу. Той тавар атрымлівае і не аплачвае. Грошы да вытворцы не вяртаюцца. Але яму трэба плаціць зарплату рабочым, закупляць сыравіну і абсталяванне. Тады ён ідзе ў банк і патрабуе крэдыт, каб вытворчасць не спынілася. Банк дае. Пасля заканчэння новага вытворчага цыкла ўсё паўтараецца.

Мы ўвесь час ганарымся, што ў Беларусі самыя нізкія тэмпы спаду вытворчасці. Але калі вытворчасць не змяншаецца, а аплаты за выраблены тавар няма, гэта азначае толькі тое, што старанны беларус працуе «на дзядзьку».

Жыццё не па сродках, у крэдыт, дае яшчэ адзін адмоўны эфект: дазваляе практычна бескантрольна завышаць цэны на прадукцыю. У рэспубліцы ў красавіку ў адносінах да снежня аптовыя цэны выраслі ў 15 разоў.

З 1 ліпеня «салодкае жыццё» ў крэдыт спыняецца. Банк не будзе прымаць плацежныя запатрабаванні пастаўшчыкоў на пакупнікоў. Разлік будзе весціся патрабаваннямі-даручэннямі напрамую, без удзелу банка. Банк і ўрад не будуць пасля ўзаемнага заліку адказваць за дзеянні прадпрыемстваў — тыя стануць сапраўды самастойнымі і будуць самі несці поўную адказнасць. Удзел банкаў у разліках хутчэй за ўсё абмяжуецца, скажам, улікам вэксаляў, якія прадпрыемствы будуць выдаваць адно аднаму, калі папярэдняя аплата немагчымая.

Толькі поўная свабода і адказнасць прадпрыемстваў не дазволяць адразу ж пасля заліку зноў назапасіць мільярды ўзаемных запазычанасцей.

Але тут існуе адна акалічнасць. Большасць прадпрыемстваў не мае дастатковага для гаспадарчай свабоды абаротнага капіталу. Пры тым, што аптовыя цэны, як ужо адзначалася, выраслі ў 15 разоў, абаротны капітал прадпрыемстваў — максімум у два. Што тут можна зрабіць? На думку С. Багданкевіча, варта пераразмеркаваць частку прыбытку манапалістаў, атрыманую за кошт прамога рабавання грамадства. Кароткатэрміновыя крэдыты можна перааформіць у доўгатэрміновыя, а частку крэдытаў аднесці на ўнутраны доўг рэспублікі, які потым пагашаць за кошт сродкаў, атрыманых ад будучай прыватызацыі.

Пасля таго, як прадпрыемствы атрымаюць абаротны капітал, неабходна, каб нарэшце запрацаваў закон аб банкруцтве. Не ўмееш працаваць, «праядаеш» прыбытак — адказвай. Вось тады, напэўна, і гаворкі не будзе, каб адгрузіць сваю прадукцыю некаму без усякіх гарантый аплаты.

Намеры Нацыянальнага банка рэспублікі, як і фінансістаў краін Садружнасці, рашучыя. Паглядзім, ці здолеюць яны, выведзеныя з-пад кантролю сваіх урадаў, вытрымліваць абраную лінію паводзін. Ці дазволяць ім?

**Аляксандр БЯРСУДСКІ.**

## Без мяне мяне ажанілі...

Міжнародны камітэт па маркетынгу, у састаў якога ўваходзяць прызнаныя прафесары з Амерыкі і Еўропы, прысудзіў узнагароду «Міжнародная брыльянтавая зорка» Кобрынскаму інструментальнаму заводу — за якасць выраблямых ім інструментаў. Узнагарода была ўручана днямі ў атэлі «Фіеста Амерыкана» ў Мехіка. На цырымоніі прысутнічалі лідэры бізнесу з розных краін, кіраўнікі рэкламных кампаній. На жаль, не змаглі прыехаць віноўнікі ўрачыстасці — кобрынцы не паспелі аформіць дакументы на выезд...

**Алесь ЛІПАЙ,**
**БелаПАН.**

## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ ЧАРНОБЫЛЬЦАЎ

**ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ. У кіёсках «Саюздруку» і кніжных магазінах з'явіліся даведнікі па правах і льготах грамадзянам рэспублікі, якія пацярпелі ад «мірнага» атама. Няма сумнення, што яны будуць карыснымі не толькі для ліквідатараў і насельніцтва, што пражывае на забруджаных тэрыторыях, але і для кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, работнікаў бухгалтэрый, аддзелаў працы і зарплаты, прафсаюзнага актыву.**

**У даведніку ўтрымліваецца поўны і падрабязны пералік правоў, ільгот і кампенсацый, устаноўленых для «чарнобыльцаў», даюцца каментарыі да законаў рэспублікі, якія датычаць адпаведнай тэматыкі.**

**Гэту патрэбную справу зрабілі спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра інфармацыі насельніцтва і грамадскіх сувязей Дзяржкамчарнобыля, упраўленні фінансавае і радыяцыйнай бяспекі і экалогіі Гомельскага аблвыканкома. Шкада толькі, што даведнік выйшаў малым тыражом.**

**Па «Розгаласу» дзяжурылі: А. Сланеўскі, І. Шчучэнка.**
**Тэл. 32-44-02.**

